

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №12 (63)
ЖНІВЕНЬ 2017 ГОДА

АКТЫЎНАСЬЦЬ

## ВЯСКОЎЦЫ ЗМУСІЛІ ЧЫНОЎНІКАЎ ПАЧУЦЬ ІХ ГОЛАС

**Да канца году мусіць вырашыцца праблема водаправоднага забесьпячэньня вёскі Суйкава. 9 жніўня грамадзкіх актывістаў у гэтым запэўніў старшыня адміністрацыі Віцебскага раёну Генадзь Сабыніч.**

Пра падрабязнасьці сустрэчы ў Віцебскім райвыканкаме распавяла нашаму карэспандэнту актывістка Алена Янушкоўская.

На сустрэчы Генадзь Сабыніч паведаміў, што на правядзеньне неабходных работ ужо выдзелена трыццаць тысячаў рублёў. Найперш на водазабесьпячэньне вуліцы Партызанскай. Паводле словаў раённага кіраўніка, зараз ідзе падрыхтоўка неабходнай дакумэнтацыі, і работы мусяць распачацца цягам тыдня. Акрамя таго, райвыканкам напісаў у аблвыканкам хадайніцтва пра выдзяленьне дадатковых сродкаў для завяршэньня поўнага водазабесьпячэньня вёскі да канца бягучага году.

Са свайго боку вяскоўцы, зацікаўленыя ў найхутчэйшым вырашэньні праблемы, гатовыя падтрымаць намаганьні раённай улады і мяркуюць ад свайго імя таксама напісаць зварот у аблвыканкам пра выдзяленьне грашовых сродкаў, якіх не хапае. І хаця ў тое, што такія сродкі будуць выдзеленыя, верыцца слаба, але вяскоўцы не губляюць надзеі.

Кіраўнік раённай вэртыкалі падзякаваў вяскоўцам за актыўную грамадзянскую пазыцыю, маючы на ўвазе іхны нядаўні зварот. У звароце грамадзяне прасілі паінфармаваць іх, на якой стадыі знаходзіцца распрацоўка праекту водазабесьпячэньня ў Суйкаве, якія работы будуць праводзіцца, колькі сродкаў выдзелена, і назваць канкрэтныя тэрміны рэалізацыі гэтага праекту.

Пасьля абмеркаваньня асноўнага пытаньня Алена Янушкоўская закранула і некалькі іншых надзённых праблемаў: адсутнасьць сьметніц, занядбанасьць каналізацыйных калодзежаў, неўладкаванасьць часткі вясковых дарог. Узьняла актывістка і праблему беспрацоўя на вёсцы, якая абвастрылася праз банкруцтва КУСГП «Пестуніца». Старшыня райвыканкаму параіў вяскоўцам шукаць працу ў абласным цэнтры, на што спадарыня Алена зазначыла, што і ў горадзе адчуваецца брак працоўных месцаў.

Алена Янушкоўская мяркуе, што ў цэлым размова была прадукцыйнаю Як той казаў, бязь лішніх словаў.

Ужо пры канцы гутаркі з нашым карэспандэнтам грамадзкая актывістка паведаміла, што днямі аналягічная праблема ўзьнікла і ў жыхароў вёскі Тапорына, дзе ад воданапорнай вежы адлучылі калёнкі, і вяскоўцы цяпер вымушаныя самастойна шукаць іншыя магчымасьці ўласнага водазабесьпячэньня.

**Ян Сведка**

*Чытайце сайт Віцебскага раёна:*
**http://vicebskreg.by**

НАШЫ СУСЕДЗІ

## УКРАИНСКИЙ ПАРАД ВЫЗЫВАЕТ КОМОК В ГОРЛЕ…

**В столице Украины состоялся парад в честь 26-й годовщины независимости Украины.**

**Во-первых.** Парад в Киеве проходил действительно торжественно. А это значит, сдержанно, как то подобает государственному празднику. Без кича в виде сеялок-веялок-живых пирамид из студентов и студенток и торжественного провоза унитазов как высшего достижения отечественной промышленности.

**Во-вторых.** Украинский парад это было не просто передвижение чеканящих шаг шеренг. Это был парад, наполненный смыслом. На нем получали золотые звезды новые Герои Украины. Торжественно, на глазах у всей страны.

На нем получали знамена и названия войсковые подразделения. Имени короля Данила, имени Черных запорожцев... Украинские названия, украинские герои. Как слава нации, гордость нации, эстафета мужества и патриотизма, идущая через века...

В Беларуси такой практики просто нет. У нас Героями Беларуси становятся в тиши кабинетов. У нас зачем-то есть Венская десантная бригада, Новгородская, Тильзитский полк... Но нет войсковых подразделений имени Давыда Городенского, князя Витовта, Михала Глинского, Константина Острожского, Тадеуша Костюшко...

**Третье.**

Положа руку на сердце: у кого есть уверенность, что белорусская армия будет защищать белорусский суверенитет, если Россия вдруг решит, что здесь, у нас, тоже обижают русских? Если бы случилось нечто подобное тому, что произошло в Крыму или на Донбассе?

Ни у кого такой уверенности нет. Есть только надежда.

А вот на параде в Киеве строевым шагом шли те, кто уже четко определился, на чьей он стороне, и какую родину готов защищать. Шла армия, которая тяжело, с кровью и большими потерями избавилась от предателей.

Нашей армии, чтобы понять, кто есть кто, не надо ждать своего Донбасса. Чтобы выявить потенциальных предателей надо перевести силовые структуры на национальный белорусский язык. Все, кто не понимает, зачем это делается; все, кто не поддержит, запротестует, воспротивится — потенциальные предатели и есть.

**Четвертое.** У Украины очень красивый гимн. У Украины очень красивый флаг. Гимн, который хочется петь. Флаг, который хочется защищать. У белорусов такие символы отобрали.

И давно понятно, что нужно вернуть. Потому что без «Погони», без национального бело-красно-белого флага, без идущего от сердца «Жыве Беларусь!» мы манкурты, трава при дороге разных империй.

Без всего этого у нас нет идеи, которая может объединять.

«Мужество рождает победителей, единство рождает непобедимых», — сказал сегодня в речи на параде Петр Порошенко.

Так вот, белорусские парады в лучшем случае демонстрируют потенциал мужества, украинский парад продемонстрировал потенциал непобедимости. А это огромная разница!

**Ну и пятое.** Президент Украины в речи на параде четко обозначает курс, куда ведет свое государство — в Евросоюз и НАТО.

Куда Лукашенко ведет Беларусь?.. Он и сам не знает. Просто ведет — от парада до парада.

**Светлана Калинкина**

ЖНІВО

## У НЕКАЛЬКІХ РАЁНАХ НЕ ПРАДАЮЦЬ АЛЬКАГОЛЬ

**Пасьля таго, як УУС Віцебскага аблвыканкаму на час жніва прапанавала раённым уладам вобласьці абмежаваць на сваіх тэрыторыях продаж сьпіртных напояў, шэраг райвыканкамаў апэратыўна адгукнуліся на прапанову.**

Як высьветлілася, пакуль у вясковых крамах Віцебскага раёну продаж сьпіртных напояў ажыцьцяўляецца без абмежаваньняў. Што тычыцца працаўнікоў гандлю, то яны зацікаўленыя ўтым, кабніякай забароны не было і надалей, бо значны адсотак дзённай выручкі складае менавіта прыбытак ад продажу алькаголю. А вось думкі ўдзельнікаў жніва і вясковага жыхарства на гэты конт выглядаюць даволі неаднастайнымі.

Кажа жыхарка вёскі Падбярэзьзе: «Ні разу ня бачыла, каб нейкі трактар пад'яжджаў да крамы. Да нас яны сюды не заяжджаюць наогул. Аднак я лічу, што такое абмежаваньне патрэбнае. У мяне ў самой сын працуе ў сельскай гаспадарцы. Трэба. Трэба. І для людзей, я мяркую, таксама неабавязкова купляць ды піць. Пасьля розныя выпадкі ў сем'ях здараюцца. Самі ведаеце, што бывае, калі людзі знаходзяцца ў тым стане, які не адпавядае ім. Я б наогул ня толькі на час жніва забараніла».

Кіроўца МАЗу, які перавозіць збожжа: «Я як не злоўжываю, дык мне неяк усё адно. Дый тыя, хто побач працуюць, па крамах пасьля працы ня бегаюць, бо ведаюць, што назаўтра трэба садзіцца за стырно. А той, хто захоча выпіць, той знойдзе заўжды».

Кіроўца камбайну: «У прынцыпе, забарона ні на што не ўплывае. Для нас на першым месцы ўборка. Нам гэта не цікава. У час жніва зусім не ўжываем. З раніцы паехалі на працу і позна ўвечары прыехалі. Да таго ж нас кіраўніцтва папярэджвае на гэты конт».

Аграном сельгаспрадпрыемства: «На ўсіх нармальных людзей гэтае абмежаваньне ніякім чынам не ўплывае. У нас запойных асобаў няма. Гэта, хутчэй, праблема для іх. У нас жа зараз напружаны час жніва. Перад намі стаяць іншыя задачы. Трэба найхутчэй сабраць сёлетні добры ўраджай, а алькаголікі для нас не арыентацыя».

Жыхар вёскі Альгова: «Магчыма, перашкаджае ўборцы. Галоўнае, каб зусім не перашкаджала, але хто захоча, той знойдзе. Што тычыцца мяне, то я вяду здаровы лад жыцьця. Да таго ж у мяне маленькі дзіцёнак, і мне наогул няма часу пра гэта думаць».

Нягледзячы на, здавалася б, лягічны крок уладаў, іх ініцыятыва тоіць у сабе і шэраг прававых, эканамічных ды маральных супярэчнасьцяў, але, найперш, гэткім чынам прызнае наяўнасьць у краіне праблемы алькагалізацыі насельніцтва і яе адносны ўплыў на рэальны сэктар эканомікі. Трэба зьвярнуць увагу і на тое, што агулам забараняючы продаж алькаголю, улады робяць замах на правы спажыўцоў, якія ня ўдзельнічаюць у працэсе сельскагаспадарчай вытворчасьці і ніяк не ўплываюць на яе пасьпяховасьць. Немалаважным застаецца і маральны аспэкт ініцыятывы: гэткім чынам улады выказваюць недавер да ўсіх працаўнікоў сельскагаспадарчай вытворчасьці, для якіх час жніва – рэальная магчымасьць палепшыць свой фінансавы стан.

Забарона на продаж алькаголю – мера для тутэйшых уладаў ня новая, аднак па ўсім бачна, ніякага заўважнага эканамічнага эфэкту ад яе няма. Хутчэй, гэтая мера выглядае як імітацыя дзейнасьці мясцовых уладаў перад кіраўніком краіны ў адзін з самых важных эканамічных пэрыядаў году.

**Ян Сведка**

СУВЯЗЬ

# ЖИТЕЛИ ЖАЛУЮТСЯ НА КАЧЕСТВО СВЯЗИ МТС

**Открытое письмо генеральному директору СООО «Мобильные ТелеСистемы» написали жители агрогородка Вымно.**

Заявители жалуются, что на протяжении ряда лет в центре Вымно отсутствует устойчивая связь, что вызывает у населения нарекания в адрес сотового оператора. В открытом письме, которое подписали более 30 жителей агрогородка, у генерального директора СООО «Мобильные ТелеСистемы» Владимира Карповича просят помощи и поддержки в решении вопроса по обеспечению устойчивой связи МТС в их населенном пункте. При этом ближайшая базовая станция находится всего в трех километрах — в деревне Астрейково, а на карте покрытия Вымно находится в зоне уверенного приёма.

«Связь то есть то нет: необходимо ходить по агрогородку и искать «палочки». Местные жители звонили в Витебск, но вопрос так и не решили. Теперь надоел такой «футбол» и решили написать письмо гендиректору», — говорит один из авторов письма Анатолий Колоницкий.

**Якаў Дрозд**

МІНУЎШЧЫНА

# ЯК ЖЫХАРЫ «ПРЫПІСАЛІ» СУРАЖУ МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА

**На жаль, у гэтым былым райцэнтры практычна нічога не нагадвае пра багатую і па-свойму ўнікальную гісторыю. Няма ні замка, ні збудаванняў, якія могуць зацікавіць турыстаў. Тэму гісторыі Суража даследаваў старшы навуковы супрацоўнік навукова-тэхналагічнага парка БНТУ «Палітэхнік» Максім Макараў.**

**Зручнае месца**

Сураж, як ні дзіўна, узнік не таму, што тут развіваліся гандаль і рамёствы. А дзякуючы зручнаму, з пункту гледжання ваеннай стратэгіі, месцазнаходжанню. У гэтым ягонае адрозненне ад пераважнай большасці беларускіх гарадскіх паселішчаў.

— Сураж насамрэч мае не зусім тыповую прычыну заснавання. Справа ў тым, што ў XVI стагоддзі месца, дзе размешчаны сучасны пасёлак, мела важнае стратэгічнае значэнне. Але да пачатку Лівонскай вайны (1558–1583 гады) замка, тым больш горада, там не існавала, — расказвае Максім Макараў. — У Суражы цячэ Заходняя Дзвіна. З паўднёвага боку ў яе тут упадае Каспля. Праз некалькі кіламетраў на ўсход Дзвіна прымае ў сябе воды буйнога паўночнага прытока — Усвячы. Кантроль над гэтым месцам дазволіў бы войскам Маскоўскай дзяржавы наладзіць сувязь воднымі шляхам паміж Смаленскам і Вялікімі Лукамі.

Каб не дапусціць гэтага, віцебскі ваявода князь Стэфан Андрэевіч Збараскі не пазней за 1560 год пабудаваў замак пры ўпадзенні Касплі ў Дзвіну і заснаваў тут горад. У іх ахвотна сяліліся жыхары навакольных вёсак. Бо ў гады Лівонскай вайны на неспакойным памежжы толькі сцены і вежы замкаў маглі даць людзям адносную бяспеку.

— Несупынныя баявыя дзеянні і перманентная пагроза знішчэння ўнёслі істотныя карэктывы ў жыццё насельніцтва. Гэта моцна паўплывала на афармленне прававога становішча мяшчан. Уладам Вялікага Княства Літоўскага цяжка было пастаянна ўтрымліваць тут наёмны гарнізон. Таму яны паспрабавалі вырашыць праблему забеспячэння абароназдольнасці замка і гарадка іншым шляхам, — працягвае гісторык.

**На коней!**

Суражскія мяшчане ў чэрвені 1570 года атрымалі гарадскія правы. І гэта была ўсё тая ж мясцовая мадэль, раней апрабаваная ў Віцебску. Асноўнай павіннасцю мяшчан было нясенне вайсковай службы, падаткаў яны не плацілі. У выніку да канца Лівонскай вайны горад не захапілі войскі Маскоўскай дзяржавы.

У канцы XVI — першай палове XVII стагоддзяў Сураж захоўваў сваё стратэгічнае значэнне. Цяжкія выпрабаванні выпалі на яго долю падчас вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай (1609–1618 гады). Царскія войскі не раз спрабавалі авалодаць горадам. Але праз зацятае супраціўленне тутэйшых не дасягнулі мэты. 30 сакавіка 1615 года кароль Жыгімонт Ваза сваім лістом нават выказаў мяшчанам удзячнасць. І гэта іх, можна сказаць, натхніла...

— У 1630–1640 гадах здараліся частыя канфлікты мяшчан з віцебскімі ваяводамі, іх суражскімі намеснікамі. Таксама абвастрыліся адносіны з некаторымі феадаламі, якія спрабавалі захапіць гарадскія землі. Дзякуючы падтрымцы манарха суражскія мяшчане паспяхова адстойвалі свае правы ў такіх неспрыяльных умовах. Пры разглядзе судовых спраў Жыгімонт Ваза станавіўся на бок суражан. Больш таго — жорстка штрафаваў іх апанентаў, — тлумачыць Максім Макараў.

**Юрыдычны «казус»**

У 1631 годзе адбыліся нечаканыя змены ва ўспрыманні прававога становішча суражан уладамі. Падчас адной з судовых цяжбаў адвакат шляхціцаў Горскіх заявіў, што мяшчане Суража не могуць самастойна прадстаўляць свае інтарэсы ў каралеўскім судзе.

Сапраўды, мяшчане горадоў, што не мелі магдэбургскага права, павінны былі скардзіцца на шляхту толькі пры пасрэдніцтве мясцовага ўрадніка. У адказ на гэты выпад прадстаўнік гараджан Марцін Свяжынскі заявіў, што магдэбургскае права Сураж атрымаў яшчэ ў 1570 годзе. Хоць на самай справе на ўвазе мелася віцебскае права.

Аднак, як той казаў, «пракаціла». Гэтыя словы не выклікалі пярэчання. Справа ў тым, што Статут 1588 года падзяляў гарады ВКЛ на дзве катэгорыі: з магдэбургскім прывілеем і без яго. Судовая калегія аднесла Сураж да першай катэгорыі.

— З доляй гумару можна сцвярджаць, што 12 чэрвеня 1631 года, выступаючы ў судзе, Свяжынскі «надаў» Суражу магдэбургскае права, якога горад у сапраўднасці не меў. У сярэдзіне 1640-х гадоў мяшчане і мясцовыя гаспадарскія ўраднікі былі цвёрда перакананыя ў тым, што Сураж мае тое, чаго няма, — усміхаецца навуковец.

**Супраць старасты**

У 1648 годзе адбыўся востры канфлікт паміж мяшчанамі і суражскім старастам Геранімам Друцкім-Горскім. Ён груба парушаў іх прывілеі і маёмасныя правы. Суражскія мяшчане ўзяліся за зброю, сваім «дэмаршам» моцна напужаўшы ўрадніка і яго жонку.

Выступленне сапраўды магло выглядаць пагрозліва:

— 27 мая 1647 года падчас канфлікту з віцебскімі езуітамі, якія прэтэндавалі на частку гарадскіх зямель, прыкладна 150 суражан з ручніцамі, рагацінамі і бердышамі прыйшлі да «апанентаў» і змусілі іх умерыць апетыт.

Як бачым, мяшчане Суража бараніліся нават са зброяй у руках. «Да сярэдзіны XVII стагоддзя яны паспяхова адстойвалі свае правы, атрыманыя ў межах віцебскага гарадскога права», — канстатаваў суразмоўца.

У 1924 годзе Сураж стаў райцэнтрам. Статус гарадскога пасёлка атрымаў ў 1938-м. У 1960-я ўваходзіў у склад Віцебскага і Лёзненскага раёнаў. Сёння — у Віцебскім. Тут пражывае больш за 900 чалавек.

У маленькім Суражы нарадзіліся некалькі вядомых людзей. Напрыклад, Аркадзь Бяссмертны — беларускі скрыпач, дырыжор, прафесар, заслужаны артыст БССР. Адсюль таксама Алег Чудакоў, вучоны ў галіне скіевічна-тваравай хірургіі. Сураж — малая радзіма і юрыста, эканаміста Захара Кацэненбаума. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ён быў адным з заснавальнікаў Дзяржбанка. Подпіс урадженца Суража стаяў на грашовых купюрах.

**Аляксандр Пукшанскі**
**Звязда**

ЗДАРЭННІ

# ПОЯВИЛСЯ СНЕЖНЫЙ ЧЕЛОВЕК

**Загадку странного существа попыталась решить экспедиция аномальных явлений «УфоКом».**

Огромное неизвестное существо житель Витебска Александр О., переехавший в наш город из Гомельской области после аварии на ЧАЭС, увидел еще четыре года назад. Однако он не рассказывал об этой загадочной встрече никому, кроме близких, и исследователи узнали о ней только в этом году.

В начале августа Александр с женой отправились за грибами в лес на берегу озера Костовье, которое находится недалеко от деревни Кулаково Витебского района. Оставив машину на перекрестке лесных дорог, супруги разошлись в разные стороны.

Обнаружив, что грибов не очень много, Александр стал звать жену по имени, чтобы переехать на другое место. Но женщина не отзывалась, и он продолжил собирать грибы в молодняке. Через какое-то время Александр увидел, как ему показалось, обугленное дерево. Но, посмотрев вверх, грибник увидел над тем, что он принял за почерневший ствол, крупную похожую на обезьяню голову.

По словам Александра, высота существа была более трех метров, а голова крупнее человеческой раза в три и заросшая волосами. Никаких конечностей он не видел, только похожее на столб туловище диаметром около 60 сантиметров.

После того, как грибник от удивления произнес «Ого!», существо просто исчезло. Правда, при этом Александр наблюдал, как в направлении берега озера начали отклоняться вершины высоких сосен, как будто между ними проходил вихрь.

После этого супруги больше не посещали лес на берегу озера Костовье, но, не смотря на то, что прошло четыре года, Александр уверенно нашел то место, где у него произошла встреча с кем-то, похожим на так называемого снежного человека. Увы, загадочный гоминид не пожелал встретиться с давним знакомым и не показался исследователям.

Никаких следов крупного существа экспедиции «УфоКом» в лесу найти не удалось. Правда, по какой-то причине в этом месте очень много сосен с причудливо искривленными или сросшимися стволами.

В лесу на бывшей турбазе, когда-то принадлежавшей одному из витебских предприятий, а теперь выкупленной российским инвестором, живет с семьей, козой и кошкой сторож. За пару лет, что он охраняет бунгало в лесу, встречаться с чем-то аномальным мужчине и его домочадцам не доводилось.

Не видели в своем лесу ни леших, ни йети и жители деревни Кулаково.

Однако Александр уверен, что встреча с огромным гоминидом ему не померещилась, и что это точно был не медведь. Исследователи из «УфоКом» планируют провести в этом районе повторную экспедицию и опросить жителей других окрестных деревень. А «Народные новости Витебска» будут благодарны читателям за рассказы о ваших встречах с неизведанным.

**«Народные новости Витебска»**

ЭКАНОМІКА

# КОТЕЛЬНУЮ ПЕРЕВЕДУТ НА ЭЛЕКТРИЧЕСТВО

**Котельная в «ВПКиТС» в поселке Ольгово станет частью экспериментального проекта по реконструкции котельных под использование электроэнергии для отопления и горячего водоснабжения.**

Согласно постановлению правительства эта котельная включена в перечень из шести объектов теплоснабжения по всей Беларуси, которые в 2017 году должны быть модернизированы для замены топлива электроэнергией.

Правительство рекомендовало облисполкомам осуществлять финансирование этих экспериментальных проектов за счет средств местных бюджетов и иных источников, не запрещенных законодательством.

В настоящий момент на балансе «ВПКиТС» в Витебске, Витебском и Бешенковичском районах находится 30 котельных: 19 работают на природном газе; 2 — на дровах; 2 — на пеллетах; 2 — на природном газе и щепе; 5 — на природном газе и дровах; еще одна котельная на природном газе них законсервирована.

**news.vitebsk.cc**

АБ'ЯВА

*Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.*

*Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".*

*Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*




"КАНЦЭПЦЫЯ"

# УСЁ Ў ІМЯ ЧАЛАВЕКА, УСЁ ДЗЕЛЯ ЧАЛАВЕКА!

**…І вось з нявызначанасцю пераўтварэнняў было скончана. Па меншай меры, так мне спачатку падалося. Падчас рабочай паездкі ў Віцебскую вобласць АП вызначыў канцэпцыю развіцця Беларусі. Слова «вызначыў» я запазычыў з афіцыйнага прэс-рэлізу. Яно здзівіла мяне сваёй невыразнасцю, сваёй неадпаведнасцю велічы моманту.**

Я адчуў тое, што ў псіхалогіі прынята называць «кагнітыўным дысанансам». На шчасце, працягваўся ён нядоўга. Ужо на наступны дзень самая салідная газета краіны выправіла хібу рэдактара прэс-рэлізу: АП не «вызначыў», а «абвясціў» новую канцэпцыю развіцця. Накіраваная яна будзе «на стварэнне ў населеных пунктах рознага ўзроўню якасных умоваў для жыцця людзей».

Усё ў імя чалавека, усё дзеля чалавека! Ну як тут не запляскаць у ладкі! Я ж яшчэ памятаю 1961 год і XXII з'езд партыі з яго выдатным лозунгам. Шкада, што перайсці ад слова да справы тады не атрымалася. Віной таму, як пазней высветлілася, быў валюнтарызм Хрушчова. Але мы не паўторым яго памылак і не наступім другі раз на тыя ж граблі. Дый адкуль у Беларусі ўзяцца палітыку-валюнтарысту (з граблямі, дзякуй Богу, праблем няма)?

Яшчэ адзін важны момант: генеральны сакратар КПСС ішоў ад абстрактных схем, а мы ідзем ад жыцця, мы ідзем ад вынікаў эксперыменту ў гарадскім пасёлку Копысь, старт якому АП даў сваім распараджэннем у лістападзе 2016 года. Вынікі ўражваюць. За няпоўны год удалося ўладкаваць інжынерна-транспартную інфраструктуру, у тым ліку зрабіць рэканструкцыю вулічна-дарожнай сеткі; стварыць новыя сацыяльныя, гандлёвыя, турыстычныя і спартыўныя аб'екты; правесці мадэрнізацыю дзеючых прадпрыемстваў. «Пры гэтым, — падкрэслена ў прэс-рэлізе, — улічваліся пажаданні мясцовых жыхароў».

Карціна ўражвае. Заплюшчваю вочы — і бачу сярэднестатыстычнага жыхара гарадскога пасёлка, які даводзіць да спецыялістаў з Мінска свае пажаданні наконт уладкавання інжынерна-транспартнай інфраструктуры.

Вось такі ўзор для пераймання ўсёй краіне. І ўсё гэта ў максімальна сціслыя тэрміны, якасна і нядорага! І ўсё гэта ў год навукі! Такі наш адказ на выклік чацвёртай прамысловай рэвалюцыі!

**Інтрыгоўная назва**

Узор («прыклад для пераймання») створаны. Што далей? А далей кожны год у кожным раёне плануецца ў двух падобных пасёлках наводзіць парадак, і праз пяць гадоў «такім чынам замыкаецца вертыкаль аднаўлення краіны: Мінск — абласныя цэнтры — райцэнтры — пасёлкі гарадскога тыпу — аграгарадкі — вёскі, якія раней былі цэнтрамі гаспадарак».

Але тут у мяне нечакана кальнула ў левым боку. Копысь у якасці ўзору быў абраны не таму, што гэта месца нараджэння АП. Выбар быў звязаны перш за ўсё з тым, што АП «добра ведае гэтыя месцы і можа асабіста пракантраляваць якасць, неабходнасць і запатрабаванасць тых ці іншых мер па развіцці населенага пункта».

Але такіх пасёлкаў у нас 60–70. Другога АП у нас няма, а для арганізацыі якаснага кантролю патрэбна больш за паўсотні такіх «адзіных палітыкаў». Вось дзе праблема! Да «замыкання вертыкалі аднаўлення краіны» засталося пяць гадоў. Дзе гарантыя, што яна замкнецца ў тэрмін і з належнай якасцю?

Жартаваць можна і далей. Але я два разы перачытаў прэс-рэліз і тры разы — інтэрнэт-варыянт газетнага артыкула, аднак так і не зразумеў навізны канцэпцыі. Сваё неразуменне я выказаў у каментары да артыкула на сайце, аднак не меў спадзяванняў на персанальнае тлумачэнне. Якія там спадзяванні! Маё пытанне рэдакцыя нават не адважылася размясціць на сайце.

Каб падвесці тэарэтычную базу пад новую канцэпцыю, нам спатрэбіцца кніга амерыканскага сацыёлага Дж. Скота «Добрымі намерамі дзяржавы. Чаму і як праваліваліся праекты паляпшэння ўмоў чалавечага жыцця». Інтрыгоўная назва, пагадзіцеся.

Адразу павінен папярэдзіць, што ў кнізе абагульнены вопыт дзяржаўных праектаў прынцыпова іншага маштабу. У прыватнасці, «Вялікага скачка» ў Кітаі, калектывізацыі ў СССР, прымусовага збору людзей у вёскі ў Танзаніі, Мазамбіку і Эфіопіі. Тым не менш я паспрабую перанесці высновы паважнага навукоўца на родную зямлю.

**Першы, другі, трэці, чацвёрты**

Трагічным фіналам пералічаных вышэй дзяржаўных праектаў спрыяла спалучэнне чатырох элементаў. Першы з іх — адміністрацыйнае памкненне, накіраванае на прывядзенне ў парадак прыроды і грамадства. Адкрыем прэс-рэліз ад 4 чэрвеня. Слова «парадак»




згадваецца ў ім чатыры разы: тры разы з дзеясловам «навесці» і адзін раз — з дзеясловам «падтрымаць».

Такія суадносіны не павінны здзіўляць. Перш, чым заняцца падтрыманнем парадку, яго неабходна спачатку навесці. А вось з гэтым праблема! У ліпені пайшоў 24-ы год, як распачаўся працэс «навядзення парадку».

Другі элемент — гэта вера ў навукова-тэхнічны прагрэс, у магчымасць панавання над прыродай і — галоўнае — у рацыянальнасць сацыяльнага парадку. Важна падкрэсліць, што гаворка ідзе менавіта пра веру, якую не варта блытаць з сур'ёзнай навуковай практыкай. Так, АП не толькі верыць у магчымасць адкрыцця ў невялікіх населеных пунктах вытворчасцяў на ўзроўні лепшых сусветных стандартаў, але і ў тое, што «мы ўжо больш чым палову шляху ў гэтым плане прайшлі».

Аднак — падкрэслівае Дж. Скот — спалучэнне фактараў становіцца смяротна небяспечным, толькі калі да першых двух элементаў далучаецца трэці. Гэты элемент — аўтарытарная дзяржава, якая жадае і здольная выкарыстоўваць усю сваю ўладу, каб увасобіць у жыццё ёю ж распрацаваныя праекты.

Запрыкладамі далёка хадзіць не трэба. Спадзяюся, беларусы не забыліся трохразовую дэвальвацыю і трохзначную інфляцыю ў 2011 годзе, справакаваныя жаданнем «дзяржавы для народа» ашчаслівіць беларусаў сярэднім заробкам у 500 долараў. Дарэчы, вінаватыя за гэту высакародную ініцыятыву не толькі не былі прыцягнутыя да адказнасці, аднак нават паіменна не названыя.

Чацвёрты элемент, цесна звязаны з трэцім, — слабая грамадзянская супольнасць, няздольная супраціўляцца планам аўтарытарнай дзяржавы. Супраць лому няма прыёму! Але для падаўлення ўсяго, што праяўляе жаданне самастойна рухацца (незалежныя прафсаюзы, СМІ і г.д.), дзяржава прымяняе не толькі лом, але і псеўдаструктуры грамадзянскай супольнасці. Як тут ні прыгадаць афіцыйныя прафсаюзы з іх фенаменальнай здольнасцю «гнеўна маўчаць»…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

НАРАДА

# ГАЛОЎНЫ ГЕРОЙ ЖНІВА

**З нарады, праведзенай Аляксандрам Лукашэнкам 21 жніўня з кіраўніцтвам эканамічнага блёку, можна зрабіць некалькі важных высноваў. Абмяжуюся трыма.**

**1.** Ад абмеркаваньня стратэгічных пытаньняў Лукашэнка ўсяляк ухіляецца, абмяжоўваецца тактычнымі. Бо стратэгічныя пытаньні — гэта пытаньні аб рэформах. Якіх ён ня хоча, пазьбягае нават вынясеньня на парадак дня такой тэмы. Таму вялікая нарада аб справаздачы ўраду, анансаваная яшчэ па выніках першага кварталу, усяляк адцягваецца. Сам кіраўнік дзяржавы папярэдзіў: «Такая справаздача заплянаваная, яна будзе ў свой час, калі я палічу патрэбным або час падыдзе». Цяпер час не прыйшоў. Бо ўрад дакладае аб пачатку эканамічнага росту. І Расея дала чарговы крэдыт. А, як вядома, рэформы пачынаюцца, калі ўсё вакол дрэнна.

**2.** Сам Лукашэнка фактычна прызнаў, што адміністрацыйныя мэтады вырашэньня эканамічных праблемаў не працуюць. Найбольш яскрава гэта выявілася ў пытаньні ліквідацыі беспрацоўя.

Як вядома, Лукашэнка аддаў загад да 1 траўня ўладкаваць усіх непрацоўных. І чыноўнікі далі адпаведную справаздачу, што задача выкананая. Міністар працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч адрапартавала: «Мы дайшлі да кожнага чалавека... Хто хацеў, той, вядома, быў працаўладкаваны». То бок улады запэўнілі, што цяпер у краіне калі і ёсьць беспрацоўныя, то па сваёй віне, яны ня хочуць працаваць.

Але хутка высьветлілася, што ўсё гэта фарс, лухта, фальсыфікацыя. Што цяпер вымушаны быў прызнаць і сам Лукашэнка: «Яшчэ летась мы дамаўляліся, што на кожнае скарочанае працоўнае месца павінна быць створана новае высокапрадукцыйнае. А ў нас па-ранейшаму прадпрыемствы працягваюць больш звальняць, чым прымаць на працу. Прынамсі, паводле той інфармацыі, якой я валодаю. У чым справа?... На паперы новыя працоўныя месцы быццам бы і ствараюцца, а на справе суцэльнае ашуканства... Як мяне інфармуюць, колькасьць занятых у эканоміцы скарачаецца».

І вось на нарадзе высьвятляюцца цікавыя падрабязнасьці. Лукашэнка, кажучы пра льняную галіну, пытае: «…Калі мяне правільна праінфармавалі, чаму сёньня на складах ільнокамбінату залежы тканіны? Ня дай Бог гэта так!».

Гэта значыць, разважаючы пра выдатныя пэрспэктывы вытворчасьці льну, забыліся згадаць маленькую дробязь: няма рынкаў збыту для беларускай прадукцыі (!). Гэта і ёсьць эканоміка па-беларуску. Калі вытворчасьць ладзіцца дзеля таго, каб заняць людзей. І толькі потым высьвятляецца, што прадукцыю няма куды падзець.

**3.** І самы шэдэўральны сюжэт з нарады, дзе Лукашэнка крытыкуе журналістаў: «Памылка журналістаў складаецца ў тым, што яны ўсюды пішуць пра нейкі гераізм на ўборцы ўраджаю, у тым ліку прэзыдэнта. Ніякага гераізму на ўборцы няма. Гэта спрошчаны падыход да таго, што раблю я і ўсе тысячы людзей, якія сёньня занятыя ў тым ліку ўборкай. Гаворка ідзе выключна пра харчовую бясьпеку нашай краіны».

Як усім вядома, сьціпласьць Аляксандра Рыгоравіча ня мае межаў. Адзін зь фірмовых элемэнтаў непаўторнага палітычнага стылю Лукашэнкі — гэта сьцьвярджэньне ў форме адмаўленьня. Гэта калі ён кажа, што я стаміўся ад улады, я яе «наеўся», рад быў бы пакінуць сваю пасаду, але ж народ не адпускае. Так і тут. Ён не адмаўляе, хто галоўны герой жніва, але ж у сілу сваёй прыроднай сьціпласьці мякка папікае дзяржаўных журналістаў. Маўляў, «гэта спрошчаны падыход да таго, што раблю я і ўсе тысячы людзей, якія сёньня занятыя ў тым ліку ўборкай». Заўважце, я — на першым месцы, і толькі потым — тысячы людзей. Складваецца ўражаньне, што «герой жніва» сам да канца не ўсьведамляе гэтую няхітрую піяраўскую апэрацыю, яна адбываецца на ўзроўні падсьвядомасьці. У гэтым ён шчыры, бо краіна павінна ж ведаць сваіх герояў.

*(скарочана)*

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

"ТУНЕЯДЦЫ"

# ПОЧЕМУ ЛУКАШЕНКО ХОЧЕТ ЗАСТАВИТЬ ВСЕХ РАБОТАТЬ?

**Чиновники найдут тунеядцев и дадут им в зубы по лопате. Генератор идеи — президент. Александр Лукашенко снова заговорил о безработных и скандальном декрете о тунеядцах. Он еще раз подчеркнул, что в Беларуси все должны работать.**

«Людей надо приучить к труду. Нельзя создавать так называемый класс безработных. Если мы их не станем вовлекать в общественно полезный труд, как раньше говорили, значит, мы будем создавать этот класс, и он будет увеличиваться. Нам этого допустить нельзя», — сказал глава государства во время рабочей поездки по Брестской области…

Он напомнил о новой версии декрета № 3, после выхода которой местным властям дадут самые широкие полномочия. «Мы вычленим людей по персоналиям: кто может, но не хочет, кто хочет, но не может, и тех, которым надо лопату в зубы — и пошел работать. Пусть на меня не обижаются», — сказал Александр Лукашенко.

Стоит отметить, что глава Беларуси не в первый раз хочет заставить всех белорусов работать. Он даже предлагал, как это можно сделать на одном из совещаний в марте этого года.

… «Надо определить места, куда должны прийти люди за работой, создать бригады, группы, которые будут лес высаживать, заборы строить, красить, убирать территорию, копать, возить, носить и прочее. И мы займем всех людей», — заявлял глава Беларуси.

**Невозможно всех заставить работать**

Руководитель аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико считает озвученные президентом идеи «нормальным деревенским подходом периода развитого социализма».

«Это гимн физическому труду. Он считает, что физическая работа — это и есть труд. Ничего подобного! Есть работа, есть труд и есть деятельность. Работа — это просто затраты физической и психической энергии. Труд — это целенаправленная деятельность человека на изменение вещества природы. А деятельность — это разносторонняя реализация способностей человека. Президент этих различий не видит. И окружающие его люди тоже не видят. Может быть, они решили все упростить так, чтобы было понятно валенку, но эпоха валенок уже прошла», — отмечает экономист.

По его словам, сейчас мир уходит от физического труда, становится все большей людей, которые занимаются различной деятельностью.

«Это может быть благотворительная деятельность, деятельность по образованию, по самосовершенствованию и прочее, поэтому мы не можем людей заставить ходить на какое-то предприятие в качестве наемного работника», — подчеркивает Леонид Заико.

К тому же, приводит цифры экономист, в обществе всегда есть 3-5% социально неустойчивых людей. В Беларуси это может быть около 300 тысяч человек. Как правило, это люди, склонные к алкоголизму и наркомании. С ними, по мнению руководителя аналитического центра «Стратегия», нужно проводить социальную работу, в результате которой в стране снизится число преступлений.

«Нам важнее, чтобы эти люди не становились опасными для окружающих, а если им нравится спать на помойке, то с этим ничего не поделаешь. Чего его гнать на работу?! Поэтому желание нашей власти заставить идти к станку, это постановка 1937 года. Это старые идеи, которые не имеют отношение к современному миру», — считает Леонид Заико…

*(скарочана)*

**Александр ЯРОШЕВИЧ**
**http://naviny.by**

"ПЕДСАВЕТ"

# ЛУКАШЕНКО И ОБРАЗОВАНИЕ: РЕФОРМ НЕТ, НО ВСЕ СТОЯТ НА УШАХ

**При отсталой политической системе не может быть передовой школы. А вот пустой муштры — до черта и больше. В Минске на два дня собрали под тысячу педагогов и чиновников. Это мероприятие напоминает Всебелорусское народное собрание, только узкого профиля. И по большому счету столь же показушно (при том что какая-то польза от обмена опытом и демонстрации новинок, конечно, есть).**

Дело в том, что концептуальные вопросы (а именно этот акцент анонсировался: мол, обсудим подходы аж до 2030 года) не решаются на таких многолюдных сходах, не имеющих эффективного алгоритма выработки свежих сильных идей.

Смешно думать, что при доминанте заорганизованности и ориентации на априорную мудрость главного участника кто-то с голоса, короткой репликой (государственные СМИ рекламировали накануне формат открытого микрофона) убедит высокое начальство изменить подходы к сфере образования. Да и не всякого умника ведь подпустят к тому микрофону. Так что это не широкий диалог, а имитация.

**Общая нелюбовь к реформам detected**

Нет, ну вроде как логично, что перед учебным годом глава государства приходит на разговор с учителями и прочими деятелями образовательной сферы. Но политологи считают, что здесь главенствует иная логика — пиаровская. В последние недели Лукашенко резко повысил публичную активность. И в этом смысле неважно, с комбайнерами ли он засвечивается или с учителями. Главное — показать электорату, что вождь энергичен, уверен в себе и четко знает, что делать.

Хотя на самом деле Лукашенко упорно уходит от решения главных вопросов — реформирования экономики (без чего не будет и крепкой материальной базы у образования, без чего миллионы молодых людей не смогут реализовать себя по полной программе).

Президент же раз за разом переключается на мелочи. Если аграрная сфера, то акцентируется на важности силосных траншей, грезах о создании суперкомбайна, особенностях теребления льна и пр. Если образовательная, то муссирует тему времени начала занятий в школе (с 8 или 9 часов), пяти/десятибалльной системы оценок (хотя сам сегодня признал, что этот вопрос «не основной»).

Да, а общая нелюбовь к реформам проявилась и сегодня, когда Лукашенко заявил: «Вы знаете мои подходы по преобразованию, совершенствованию, где-то реформированию системы нашего образования. Сущность этих подходов состоит в том, что я категорически против какой-то ломки, даже реформирования в полном смысле этого слова».

**Волюнтаризм рулит**

Официальный лидер не упустил момента снова потоптаться по политическим противникам. Прозрачно намекнул на нелюбимых националистов, которые в первой половине 1990-х якобы «за два-три года пытались научить всех нас разговаривать на том языке, на котором они хотят...», «вообще начали ломать все подряд. И точные науки, и естествознание, гуманитарные направления нашего образования».

Да, в гуманитарной сфере сдвиги тогда были, например в преподавании истории стало меньше белых пятен, москвоцентризма. Заметьте: сейчас, после Крыма, сам Лукашенко начал апеллировать к древности корней белорусской государственности, подчеркивать, что Полоцкое княжество старше Московского. То есть де-факто стал на позиции ненавистных, как он их называет, «нацменов» (при том что политические репрессии против «свядомых» — возьмите «дело патриотов» — продолжаются).

Что же касается точных наук, то неужели в 90-х, при проклятых националистах (которые на самом деле и тогда, на заре независимости Беларуси, находились в оппозиции), дважды два в школе было пять?

На самом деле образование у нас нещадно корежат волюнтаристскими новациями именно в президентскую эпоху. Чего стоил один переход с 12-летки на 11-летку с ликвидацией профильных классов, урезанием специализированного обучения и часов на иностранные языки! Потом эти перегибы стали тихо устранять, но на кой ляд было вообще махать административной шашкой?

По указанию сверху приходится раз за разом лихорадочно переиначивать школьные программы, переписывать учебники (которых в итоге просто не хватает — ни хороших, ни плохих, вообще никаких). Причем некоторые коррективы в программы по истории, литературе сильно напоминают политическую цензуру, попахивают Оруэллом.

Такие спонтанные, идущие от дилетантизма и ретроградства перемены лишь напрягают преподавателей и учащихся, усиливают элемент муштры, но при этом качество образования падает, образовательная система по большому счету деградирует.

И нет настоящих преобразований в европейском смысле слова. Беларусь авансом приняли в Болонский процесс, но отрабатывать этот аванс державные мужи не спешат. Оно и понятно: Европа с ее гнилым либеральным духом здешней системе власти чужда, от всяких болонских заморочек типа университетской автономии, выборности ректоров тянет душком крамолы, подрыва устоев. Ишь чего проталкивают! У нас любые выборы — под колпаком, самодеятельность но пасаран.

В Беларуси, напротив, образование сделали оплотом политического застоя. Учителя массово рекрутируются в избирательные комиссии, которые из кампании в кампанию обеспечивают «элегантные победы» правящей верхушке и ее ставленникам. Студентов гонят на досрочное голосование, а потом — цигель-цигель, ай-лю-лю, в деревню к маме за салом, а не шастать по площадям, где заваривает кашу оппозиция.

Короче, лояльность учителя и ученика, студента — на первом месте, остальное уже мелочи…

**Человеческому потенциалу нужна рамочная свобода**

Вообще спичрайтеры, конечно, вставили в речь руководителя ряд формально бесспорных тезисов. Например, Лукашенко заявил с трибуны совещания, что «нам предстоит большая работа по развитию человеческого потенциала».

Действительно, сегодня место страны в мире, а главное — ее перспектива определяется не наличием грозных ракет, не территорией или прочими экстенсивными атрибутами, даже не залежами благословенной нефти, а именно интеллектом, способностями людей. Продвинутостью народа, если хотите.

Белорусы смышлены, быстро схватывают новое (посмотрите: 92% экспорта Парка высоких технологий со свистом уходит в ЕС и Америку), у нас формально высокий уровень образованности. По этому параметру мы соответствуем критериям передовых стран. Но вот политический режим — отсталый, скорее характерный для третьего мира.

И вот как раз замшелость режима прежде всего тормозит развитие человеческого потенциала. Этому процессу мешает отсутствие минимума рамочной свободы во всех сферах. Так что тут не учителей понукать и не детишек дергать надо, а всю систему менять.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**http://naviny.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 28.08.2017 у 18.35
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.